## ЗЬМЕСТ



Мова ліста, звароту ёсьць бяз зьмен. Рэдактар пішыць іншай Беларускай Мовай. Той хто разумеіць Беларускую Мову напішыце фэльетон; той хто чытаіць усю беларускую прэсу — падумайце; той хто даўно чытаў па-беларуску, альбо першы раз атрымаў Беларускую Прэсу (а такія ёсьць), калі ласка, не сьпешайце чытаць. Хутка чытаючым, тым, што павольна чытаюць, ёсьць дастаткова матэр'ялу, над якім ужо даўно час падзадумацца сур'ёзна!

*Рэдакцыя*

ЗАЎВАГА: Ліст друкуецца курсывам, развexamples разважаньне рэдактара — простым шрыфтам.

*ВВВасілеўскі* *12 Крас. 70*

## *УКЛАДАЛЬНІКУ Й ВЫДАВАЛЬНІКУ ВЕЧА*

*Вельмі Паважаны й Дарагі Доктару.*

*Шчыра дзякую за прысланы першы часапіс. Вітаю, жадаю паводжаньня, слаўлю за гэтую выдатную народную й грамадзкую натугу.*

*Хвалю народную, родную мову часапісу. Зразумелая, мясцовая, сялянская мова — павінна быць моваю нашых вугоных, а ня ўложаная адраджэнцамі зусім новая, нібы аснованая на народнай, але ў сапраўднасьці — на расейскай граматыцы, правапісе і нават выгавары.*

*Падтрымоўваю ўсе чатыры намаганьні: „Веча — кіраваньне справамі краю“ запісаць думкі й працу, падзяліцца думкамі, „Вялікай Мэты..: бачыць Беларусь Незалежнаю Дзяржаваю“.*

*Згодны з тым каб ў нас былі розныя спосабы-развакаваньні, ды погляды, аб выкананьні Незалежнасьці. Але на справе маем нятолькі погляды на спосаб асягненьня, але й на само асягненьне.*

*Ёсьць суродзічы, якія думаюць (і дзеюць) каб нам трымацца маскалёў, тварыць супольны народ, адну веру, літэратуру, культур, дзяржаву й краіну. Беларусы, як частка „рускага народу“. Тут сярод нас такіх называюць „зарубежнікамі“ нятолькі дзеля Царквы, але й дзеля якраз гэтага супольна рускага намаганьня ў іншых праявах людзкага жыцьця.*

Я думаў, што посьле таго, як Вас высьвяцілі на сьвятара Вы станіце больш сур'ёзным а не прапагандыстым.

*Зарубежнікі зусім падобныя да йншай адмены суродзічаў, якія разглядаюць сябе за ліцьвіноў, але трымаюцца польскай дзяржаўнай думкі й зразумела жадаюць каб мы тварылі частку, калі ня польскага народу, дык непарушна польскай дзяржавы. Шмат такіх суродзічаў ў Англійі, але ёсьць колькі й тут.*

*Самі разумееце, для такіх суродзічаў Вялікае Намаганьне ёсьць*

*ЗАЛЕЖНАСЬЦЬ Беларусі й мы, для іх толькі статак, які трэба заганяць ў йхны хлеў.*

Вы не павінны кідаць „зарубежнікаў“ у адзін кошык із тымі, якія далучыліся да расейцаў ды палякаў. Гэтая мянушка дадзена вашай палітычнай групоўкай; каб паказаць, што толькі вашая група ёсьць самая ідэйная. У сапраўднасьці, зарубежнікі і крывічы ёсьць дзьве таталітарна-палітычныя групоўкі, альбо інакш кажучы — беларускія фашысты. Крывічы гэта фашысты — праватыканскага напрамку. Зарубежнікі гэта фашысты, якія фальсыфікуюць гістарычныя факты Другой Сьветавой Вайны; дый лезуць, як тая жаба на карча да прэзыдэнцкага стала на Беларусі.

*Здаецца такі напрамак думаньня вельмі выразны й павінен быць баганы кожным незалежнікам. Нажаль так ня ёсьць. Прыкладам справа „вуніі“. Усе ведаюць, што вунія, пераход праваслаўных ў каталіцтва без зьмены абраду, была вельмі прытарнаю хваробаю ўвезянаю ў наш край і прынятаю нашым народам. Але мы перахварэлі, ды ўжо каторы год маем доказ поўнай адпорнасьці на вунію. Нават нашыя каталікі-лацінікі ня вельмі ахвотна на яе хварэюць.*

*Чаму, тагды нашыя зарубежнікі так крыгаць на вунію?*

*А таму што вунія ёсьць страшнаю маскоўскай апрыгонасьці. Яна ўцягае маскалёў ў заходнюю культуру. А гэтым збліжае маскалёў да беларускасьці, а ня на адварот, гаго шукаюць нашыя зарубежнікі. Йх імкненьне, каб мы, заходняга напрамку думаньня, схіляліся да маскоўскага, ўсходняга. Каб гэтым рабіліся маскалямі.*

Зарубежнікі пачалі паказваць, што крывічы ёсьць вуніяты, посьле таго, як іншыя зрабілі. Часапіс „Уздым“, каля якога згуртаваліся ідэйныя праваслаўныя БАПЦ, паказаў хто рабіў дый робіць на карысьць Ватыкана. Зарубежнікі пачалі абзываць вас „крывічы“, замест вуніяты; дый гэтым самым дапамаглі вам, занадта доўга, маскавацца.

Маскалі ў канцы 18 стагоддзя дый 19 стагоддзя ўлезлі ў заходнюю культуру больш, чым Беларусы. Дасягнуўшы ступені думаньня фашыстаў, расейцы сёньня ўдаюць, што яны вышэй чым Захад. У гісторыі, Беларусы былі больш Заходняга Думаньня, сёньня мы больш прымітыўна — афрыканскага думаньня. Хіба нашая абыякавасьць да сваей Бацькаўшчыны, сваей Нацыі, дый вашая барацьба на жыцьцё і сьмерць за прэзыдэнства, у той час, як мы мелі

дый маем больш неадкладныя справы, паказваюць вышыню розуму Заходняга напрамку ці якога іншага? Чэцьверць стагоддзя на Захадзе Новай Беларускай Эміграцыі — рэзультат: таталітарныя арганізацыі, развязка сваіх унутраных праблем па крамлёўску, неудача ў грамадзкім жыцьці мы ўзвальваем на дэмакратычны парадак, замест на сваю няздольнасьць, тупалобасьць.

Калі радактар гэтага часапісу, карыстаючыся прывілегіяй Захада: свабодна думаць, верыць, друкаваць; пачаў выдаваць вось гэны часапіс, каб мы пачалі разьвязваць свае праблемы ў Заходні Спосаб, а не на ўсходні спосаб, то крывічы і зарубежнікі радзяцца паміж сабою, як-бы адабраць маё жыцьцё, якое дадзенае мне ня імі а Богам.

*Калі ласка, аднак ня мяшайце сюды а. Лапіцкага. У тога даходзіць яшчэ страх за вернікаў, якія могуць перайсьці ў вунію й гэтым зьменшыць яго парахвію, ды лік праваслаўных наагул. Страх толькі з навыку, але ня сапраўднасьці. Бачыце самі, што ў нашых цэрквах больш нашых каталікаў, як нашых праваслаўных у вуніяцтве, ці нават лацінскіх касьцёлах.*

Як хітра, вы хочыце абыйсьці сапраўднасьць. Каталікаў у БАПЦ, сапраўды ёсьць многа, асабліва посьле таго, як Ватыкан шукаіць збліжэньня цэркваў, тут яны, як радныя эміграцкай БНР выконваюць ролю місыянэраў Ватыкана. „Гэта палітыка, а палітыку трэба разумець — мудрыя словы Вацлава Папуцэвіча“. Калі ласка, аднак, не мешайце сюды а. Лапіцкага.

*Закід нашым павадыром што ўводзяць вунію, яшчэ й тым супраць беларускасьці, што вунійны цяперашні рух якраз ў нас йдзе за пераход каталікаў-лацінікаў й вуніятаў: каталікаў славянскага абраду. А ёсьць змаганьне йна пераход на беларускі абрад: мову, некаторыя адвечныя нашыя абрады нават ня хрысьціянскага зьместу.*

*Дык што лепш Вялікаму Намаганьню, беларусы каталікі-лацінікі, ці беларусы каталікі-беларусы? Біскупы-лацінікі, што й моляцца па польску, ці ўладыка Часлаў, які й моліцца, й можа будзе старацца быць беларускім народным дзеячам? Хібаж можна быць за тое каб манаполь на беларускую справу меў а. Лапіцкі й ул. Васіль, а ня ул. Часлаў, ані ул. Рыжы-Рыскі, Ян Пятроўскі, Тарас Сайка? Бачыце, „дымакрацыя“, ды й відаць хто „дыміць“.*

Тут сапраўды вы дыміце (дымакрацыя), да гэтага плутаіце

(плутакрацыя). Із вашага пісаньня можна зразумець так: із некалькі тысяч Беларусаў-Католікаў; якія належылі да польскіх касьцёлаў, цяпер яны пачалі называць сябе Беларусамі; дый ужо ў некалькіх касьцёлах увялі Беларускую Мову. Тут сапраўды, Абрамчак і ул. Часлаў зрабілі Вялікае Намаганьне. Нічога падобнага нема. Тры першых духоўных асобы, бязумоўна, хочуць мець манаполію, астатніх вам непатрэбна было бадраваць.

*Трэба ня забывацца аб суродзігах, якія акладаюць справу нашай дзяржаўнай самабытнасьці на пасьля, калі маскоўская „імпэрыя“ будзе разваленая. Гэтая думка гужая нашай народнасьці, і ведама, яна накінатая нашым павадыром праз амэрыканцаў, якія змагаюцца з камунізмам, а ня з маскалямі. Тагды як нашае змаганьне перадусім з маскалямі, а каунiстам самі дамо рады.*

*Таму калі кажацца аб „непрадрашэнцах“ трэба разумець што гэта людзі сугаснай нажывы. Некаторыя зь йх так пераняліся свайм заработкам, што й душу прадалі „кампаніїі“. Іншыя толькі „дзеля хлеба куска“, ды маюць свае думкі, такія як і кожны з нас. І гэтае разрожніваньне трэба ведаць і ня ляпаць, як лапцям па гразі, ды ахляпваць стрэгнага-папярэгнага, таму што гэта на карысьць галоўным ворагам нашай Вялікай Мэты.*

*А гэтая Вялікая Мэта патрэбная нашаму народу й крайіне, дзеля дабра людзям ды йх бацькаўшгыны.*

Калі вашым павадырам накінулі то дзе вы былі і ёсьць? Хто кім кіруіць: вы павадырамі, ці павадыры вамі? Калі-ж вы патураіце вашым павадыром, бо аніяк небачна, што не, то тады вы адказваіце за іх дзейнасьць. Калі прыехаў да Ню Йорку із Мюнхена непрадрашэнец-каталік; ды даверaны Абрамчыка: вы разагналі праваслаўную царкву ў Брукліне (БАПЦ), раскалолі БАЗА, дый нідзе ў дымакратычнай прэсе нерастлумачылі суродзічам на Захадзе, для чаго усё гэта было патрэбна?

Ляпаць лапцям па гразі; дый ахляпваць стрэчнага, папярэчнага можыць толькі дурак, альбо чалавек усходняга думаньня. Дапамагчы сваім суродзічам думаць самастойна, абектыўна — што давядзець да Вялікай Мэты: як свабода, сацыяльная справядлівасьць, роўнасьць сярод іншых народаў; а чаму ня вышэй? Хіба Швэдам сорамна, што яны абагналі рэшту сьвета на паўстагоддзе. Усё гэта можа рабіць чалавек якога турбуіць лёс свайго народа, той хто правёў сотні гадзін прыватных дыскусій із Беларускімі Дзеячамі-Ла-

мачамі, той хто перачытаў дый перажаваў „беларускаю дэмакратычную прэсу“.

Каб паправіць дрэннае вялікае колькасьці людзей, якія ёсьць рассеяныя — патрэбна самастойная, аб'ектыўная прэса; якая павінна разважаць на карысьць свайго народа, а не ляпаць. Гэтую Вялікую Мэту на эміграцыі павінны былі ўзяць на сябе Беларускія Сьвятары праз Беларускія Цэрквы. Хляпаньне, ляпаньне пачалося ад тых, хто ня быў прызваны Богам да такой нізкай мэты.

*Праз 200 гадоў мы дасьведгылі: маскоўская дзяржаўнасьць нам давала душэўнае паняволеньне й гаспадаргае выкарыстваньне. Шмат ў каторым куце крайіны было нятолькі выкарыстваньне, але й адкрытае абдзіраньне насельніства й краю з усяго гаго людзі саматугам дарабіліся.*

*Маскоўская дзяржаўнасьць сяньня абдзірае наш край і народ з працоўнай сілы і маладога нарасту насельнітва. Выкарыствае нашых людзей дзеля паняволеньня й каляньялізму йншых народаў і крайінаў сьвету.*

*Мы мусім адкінуць ўтрымоўваньне дасяляшняга парадку прыналежнасьці да Масквы, ды суладнасьці з маскоўскім народам, дзеля еідавогна шкоднасьці нашаму народу й краіне, а нават усяму насельніцтву.*

*Думка зарубежніцтва, няпрадрашэнства, масквалюбства ў кожным напрамку й разуменьню, ня падарозе нікому з суродзігаў. І калі мы гэтага асягнем, калі думка Самастойнасьці Беларусі станецца сапраўднасьцю для нас ўсех — тагды мы зразумеем: БНР і БЦР і БАЗА, Кангрэс, Цэрквы усех юрсдыкаў і напрамкаў ёсьць толькі спосаб, толькі адмена шляху, колер вопраткі, ці абутку ў супольнай хадзе да супольнага дабра.*

У апошнім сказе вы супярэчыце самы сабе, што вы сказалі напачатку. Я думаю, што вы зрабілі для таго каб сказаць, што усё ёсьць „добра“. Калі нема супольнай хады, то, як можыць быць супольнае дабро? Алеж вы і фантнзёр!

*Тагды будзеце наракаць на крывігоў за хуткасьць думаньня, але ня за зьмест. Яны папярэджваюць нашую прышласьць, тагды як некаторыя з нас думаюць яшгэ думкамі даўніх павадыроў „люкзьмі стацца“. Мы ёсьць ужо людзі. Мы лепшыя за йншых людзей. Усё ёсьць, толькі адвагі ня хапае стацца валадарамі ўсяго сьвету, ў шмат*

*каторай галіне людзкай дзейнасьці.*

То нашая і бяда, што мы няхочым людзьмі стацца. Дайце прыгледзімся самі да сябе: як па беларускі: Войтэнка ці Войтенко; Васілеўскі ці Васілевскі? Афіцыяльна вы пішыце сваё прзвішча Др. Васілевскі. Што, нехапаіць адвагі? Як можна тады зачынаць больш складаныя справы пра якія вы пішыце тут.

*На адрэзку Б-Менск. Вашае змаганьне за разбудову, палепшаньне дзейнасьці, за йснаваньне асяродку мае падтрымку ўсех. Нават тых, на каго мясцамі наракаеце, ды абвінавагваеце ў зыходзе на сяняшняе палажэньне.*

*Гэта нашае першае прадпрыемства агулу. У кожным агульным прадпрыемстве, дзе толькі маюцца грошы, знойдуцца хітруны нажывы, як знаходзяцца злодзейі нават і у Вашым асабовым, якія атрымаюць паслугу й возьмуць Вашую работу за дарма, а то й яшгэ пахваляцца што ашукалі доктара.*

*Нельга паблажаць злыдням, але й няма гаго марнаваць натугу, грошы, ды нэрвы судзіцца з німі. Кошты суду куды вышэй, як зварот разкрадзенага дабра.*

*Мая думка: памагаць сугасяаму кіравецтву БМенску, палепшыць дзейнасьць. Можа пазыгыць грошы. А перадусім заклікаць усех, каб наведвалі Менск, карысталіся яго уладжаньнямі, адпагывалі, весяліліся, ды прыносілі гэтым сабе й грамадзе карысьць.*

*Хаця абвінавагываеце мяне ў сарваньні летнішга для дзяцей, аднак і цяпер я зо тое каб летнішга было ўладжанае, і пастараюся дапамаггы кожнаму хто за гэта возьмецца й зробіць. Таму што яно важнае для БМенску, а перадусім для нашых дзяцей.*

*І былобы добра для БМенску, каб кіравецтва зьвярнулася да БАЗА й запрасіла йх правесьці Спатканьне гэтага верасьня ў БМенску, а не ў Нюёрку. Гэта дасьць крыху заработку, а перадусім добрую славу як нашага асяродку, ды збольшыць людзей ў наступным годзе дзейнасьці БМенску.*

Калі маё змаганьне на адрэзку Бэл-Эр Менск мае падтрымку усіх, то ў чым тады справа? Хіба сёняшняга старшыню БАЗА трэба прасіць дый вытлумачваць, чаму трэба зрабіць спатканьне Базаўцаў на рэзорце. Ён быўшы заступнік прэзыдэнта гэнай карпарацыі, некалькі раз дырэктар. Што, усходняе думаньне мешаіць? Калі не памойму, тады трэба рабіць супроць, знаходзячы далікатныя выкру-

тасы. Вы добра разумееце, але чаму даеце такую параду? — пазычаць грошы. Гэта роўна таму: калі нехта топіцца, то яму йшчэ пакласьці камень на галаву. У папярэднім лісьце вы радзілі нам прадаць наш найлепшы будынак „Белавежа“. Узноў, я вас не разумею. Нашая Маленькая Беларусь будзіць падобнай на „манастыр Мір“, а лепш кажучы, будзіць канец. Калі недапаможыць у добры спосаб, зьвярнуць маральныя і матар'яльныя страты тады трэба судзіць, і толькі.

*Чакаю наступнага выданьня, Вашага вельмі вартаснага гасапісу, ды прашу паведаміць ў гым магу памаггы, каб выданьне было хуткае, зьмястоўнае й выдатнае.*

*Ваш ВВВ*

Дзякую.

## РЭЗОРТ БЭЛ-ЭР МЕНСК: ПРАПАНОВА

За сем год існаваньня нашай карпарацыі: 34 дольшчыкаў належылі да дырэкцыі, 14 дольшчыкаў належылі да рэвізыйнае камісіі.

Для таго каб пакрыць сорам да якога спрычынілася дырэкцыя, рэвізыйная камісія, асабліва экзэкутыва, я прапаную новай дырэкцыі: склікаць гэтую паўсотню людзей; нехай яны выберуць паміж сабою камісію (выключаючы старую экзэкутыву); праверыць усе дакумэнты карпарацыі; дый нехай зьвернуць тую матар'яльную страту, да якой яны спрычыніліся.

Быўшыя дырэктары, быўшыя сябры рэвізыйных камісій, калі ласка, напішыце мне свой пагляд на маю прапанову, не пазьней, як 10 дзён ад дня перасылкі гэтага часапіса.

*Др. П. Маркоўскі*

УВАГА!

У ЗША дый Канадзе, для многіх нашых суродзічаў ёсьць цяжка, альбо немагчыма дастацца да мэдычных школ. Паездка ў іншыя краіны дзе на ўнівэрсытэтах выкладаюць на іншай мове чым ангельская рэдактар не радзіць (хіба хто маіць надзвычайную цікавасьць да чужой мовы).

Найлепш будзіць паехаць да тых краін, дзе ўнівэрсытэты ўжываюць ангельскую мову, напр.: Індыя, Філіпіны. Рэдакцыя маіць больш, як сто адрасоў мэдычных школ у Індыі. Калі, хто цікавіцца, калі ласка зьвярніцеся да нас.

ПЕРАКРУЧВАНЬНЕ, ЗАМОЎЧВАНЬЕ ПРАЎДЫ ЁСЬЦЬ НОРМАЙ ДЛЯ ДЫКТАТУРЫ.

САТАЛІТНЫЯ ДЗЯРЖАВЫ МАСКВЫ ЦЬВЕРДЗЯЦЬ, ШТО КАМУНІЗМ У РУМЫНІЮ, ЧЭХАСЛАВАКІЮ ПРЫЙШОЎ ІЗ САМОГА НАРОДА, А НЕ БЫЎ ПРЫНЕСЕНЫ ЧЫРВОНАЙ АРМІЯЙ.

У БССР ТАКАЯЖ САМАЯ ГІСТОРЫЯ. ПРАВАКАЦЫІ САВЕЦКІХ ДЫВЭРСАНТАЎ, НА БЕЛАРУСІ, ПАДЧАС ДРУГОЕ СЬВЕТАВОЕ ВАЙНЫ, БЫЛІ ПАТРЫЯТЫЧНЫМІ ПАСТУПКАМІ, А НЕ БЕЗАДКАЗНАЙ ПРАВАКАЦЫЯЙ ЦК КПСС. ПРЫМУСОВАЯ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫЯ БЕЛАРУСКІХ ВЁСАК — БЫЛА ДАБРАВОЛЬНАЙ, А НЕ ПРЫМУСОВАЙ. ТЭРОР 1933 ГОДА, ПРОСТА БЫЛА ПАТРЭБНАЯ ЧЫСТКА ПАРУ АГЕНТАЎ НЯМЕЧЧЫНЫ, ПОЛЬШЧЫ, А НЕ ІЗ-ЗА СТРАХУ ПЕРАД НАРОДАМ, ДЫЙ ЗА СВАЕ СТАНОВІШЧЫ.

Сп. КАСЯК ДЫЙ ІНШЫЯ СЯБРЫ „ДРУГОГА УСЕБЕЛАРУСКАГА КАНГРЭСУ“ ПАСЬВЯЦІЛІ ЧЭЦЬВЕРЦЬ СТАГДДЗЯ ДЫЙ УСЮ СВАЮ ЭНЭРГІЮ, КАБ ДАКАЗАЦЬ, ШТО ЧОРНАЕ БЫЛО БЕЛЫМ. ГЭТА ЙШЧЭ АДНА ІЗ ПРЫЧЫН, ЧАМУ ЗАВАЛІЛАСЯ ГРАМАДЗКАЕ ЖЫЦЬЦЁ, БЕЛАРУСКІХ АСЯРОДКАЎ НА ЭМІГРАЦЫІ, ЯКІЯ ЯНЫ РЭПРЭЗЭНТАТУЮЦЬ БЕЛАРУСКАЯ ПАЛІТЫЧНАЯ ЭМІГРАЦЫЯ МОЖЫЦЬ РАБІЦЬ ДРЭНАЕ, АЛЕ АБ ГЭТЫМ НЯ МОЖНА ГАВАРЫЦЬ, ТЫМ БОЛЬШ ПІСАЦЬ. КАЛІ НЕЙКІ ПІСЬМЕНЬНІК, АЛЬБО ХТО ІНШЫ Ў БССР ЦІ СССР СКАЖУЦЬ ПРАЎДУ АБ САВЕЦКАЙ САПРАЎДНАСЬЦІ, ТАДЫ БЕЛАРУСКАЯ ПАЛІТЫЧНАЯ ЭМІГРАЦЫЯ, НІЯК НЯ МОЖЫЦЬ НАЦЕШЫЦЦА.

ДЛЯ АДУКАЦЫІ МАЛАДЗЕЙШАГА ПАКАЛЕНЬНЯ БЕЛАРУСАЎ, ДЫЙ ДЛЯ ТЫХ, ХТО ЙШЧЭ ЁСЬЦЬ ЗАГІПНАТЫЗАВАНЫ ДЫКТАТАРАМІ СВАЕЙ ГАДОЎЛІ, НІЖЭЙ БУДЗІЦЬ ПРААНАЛІЗАВАНЫ ЗВАРОТ ПРЫХІЛЬНІКАЎ „ДРУГОГА ЎСЕБЕЛАРУСКАГА КАНГРЭСУ“.

---

ЗАЎВАГА: Зварот друкуецца курсывам, уступ, аналіз і вывад — простым шрыфтам.

## *ЗВАРОТ*

### *ДА БЕЛАРУСКАГА НАРОДУ НА ПАНЯВОЛЕНАЙ БЕЛАРУСІ І ДА БЕЛАРУСАЎ У КРАІНАХ ВОЛЬНАГА СЬВЕТУ*

*25 год таму назад у горадзе Менску, на Беларусі, адбыўся Другі*

*Усебеларускі Кангрэс. Ён адбыўся ў нязвыгайна цяжкіх абставінах. У той гас Беларусь знаходзілася ў непасрэдным абсягу дзеяньняў Другой Сусьветнай Вайны ў ейных найжахлівейшых формах. За панаваньне над Беларусяй збройна змагаліся паміж сабой вялізарныя арміі Савецкай Расеі і Нямеггыны.*

Даражэнькі Касяк, якая ёсьць патрэба пускаць дым у вочы, хіба мы ў такі спосаб чагось навучымся? Ці ня лепш было пачаць так, як было. 25 год таму назад, па нямецкай ініцыятыве, адбыўся „Другі Ўсебеларускі Кангрэс“.

*Урад Нямегыны, пад кіраўніцтвам Гітлера, уважаў усходнюю Эўропу, уклюгаюгы і Беларусь, за жыцьцёвы прастор празнаганы лёсам для нямецкага народу. Ён імкнуўся заваяваць гэтыя прасторы і калянізаваць іх, ператвараюгы пражываюгы там народы ў звыгайных нявольнікаў немцаў. Беларусь ад паловы 1941 г. поўнасьцю адгула на сабе гэту цяжкую колёнізатарскую палітыку.*

Вельмі добра, калі падпісаўшыяся пад гэтым зваротам знал гітляроўскія пляны. Калі вы знал то вы ніколі не павінны былі стацца памагатымі для нямецкіх плянаў. На вялікую жаль Беларусы, асабліва сялянства, гэтага незналі. Беларусы чакалі вызваленьня, дый бачна сёньня чакаюць. Вайна Беларусаў моцна пакарала, але не навучыла.

*Урад Савецкай Расеі ўважаў Беларусь за неадлугную гастку Расейскай дзяржавы. Ён змагаўся супроць нямецкага нападу, але аднагасна вынішгаў усе праявы Беларускіх нацыянальна-вызвольных імкненьняў, для забясьпеганьня трывалага панаваньня Савецкай Расеі над Беларусяй*

Расейскі патрыятызм вырас у шавінізм дый фашызм, Ненавісьць нерасейскага дый вынішчэньня ўсяго нерасейскага, тым больш антырасейскага — стала нормай расейскай псыхікі. Расейцы, у большасьці, ня могуць дый не стараюцца разумець іншых.

*Польскі эміграцыйны ўрад з Лёндану кіраваў арганізацыяй і дзейнасьцяй Польскай Краёвай Арміі, дзеюгай патаемна на Заходняй Беларусі. Збройныя аддзелы гэтай арміі вынішгалі беларускі нацыянальны актыў. Пры спрыяльных абставінах яны мелі збройна дапамагаць да ўтрыманьня гасткі Беларусі ў межах адбудаванай Польскай Дзяржавы.*

Хто вінаваты, Польскі Эміграцыйны Ўрад із Лёндыну ці Беларусы Каталікі, якія пайшлі да Польскай Краёвай Арміі?

*Расейцы несавецкага напрамку сіліліся ўтрымаць расейскія ўплывы на Беларусі, з пэрспэктывай адбудовы непадзельнай Расеі, ахопліваюгай і Беларусь.*

Расейцы несавецкага напрамку ня толькі сіліліся мець свае ўплывы але іх мелі. Які-ж чорт, Як не Беларусы дапамагалі расейцам. У 1941 годзе расейскіх палонных хавалі Беларусы, а потым яны сталі савецкімі партызанамі, дый пачалі правакаваць немцаў. Забюць аднаго паршывага немца, а немцы із мяйсцовымі беларускімі паліцаямі (у паліцыі было многа расейцаў, мы і тут не маглі бяз іх абыйсьціся), спалюць усю вёску із старымі дый малымі. Які чорт, як не Беларусы запоўнілі Власовскую Армію. Ці не час паглядзець, што мы рабілі дый робім.

*Беларускі народ у той гас быў у вельмі цяжкім палажэньні. Папярэдняя акупацыйная палітыка Савецкай Расеі на ўсходняй Беларусі і Польшгы — на заходняй Беларусі, масавым тэррорам вынішгалі беларускі нацыянальны актыў і не дапушгалі да росту беларускай нацыянальнай сьведамасьці і арганізаванасьці ў беларусоў. Русыфікацыя з аднаго боку і полёнізацыя з другога, яны імкнуліся зьнішгыць беларускі народ духова і зьліць яго з расейцамі на ўсходзе, і з палякамі — на захадзе. Эканамігны ўціск беларусоў у Польшгы, калектывізацыя і камунізацыя пад панаваньнем Расеі, пазбавілі беларусоў самастойнай гаспадаргай базы і сапхнулі да стану пасыўнае вегетацыі на задворках гужацкага панаваньння.*

Тое, што вы сказалі на пачатку, мае дарагія падпісаўшыяся, вядома больш за стагодзьдзя. Адно, я не разумею, калі нас сапхнулі да стану пасыўнае вэгэтацыі (пражываць, як замораная расьліна) на задворках чужацкага панаваньня то чаму мы прадаўжаем быць такімі, вось тут на эміграцыі. Паглядзіце на іншыя нацыянальнасьці, яны не вэгэтуюць, але ім завідуюць мяйсцовыя жыхары. Саўт Рывэрскі Беларускі Асяродак у ЗША ёсьць тыпічны вэгэтацыйны асяродак, на чужым панадворку. Я называю сваіх беларусаў тут, белыя негры. Мяйсцовыя швэйныя фабрыкі працьвітаюць на працы белых нэграў. Вось тут Іван Іванавіч і сакрэт, каб вы із непамыльнейшым айцом Лапіцкім дапамаглі сваім розумам мяйсцовым Беларусам, вылезьлі із вэгэтацыйнага стану, тады непатрэбна была крытыка вас. Хоць неахвотна, але праўду трэба сказаць, бо гэта ёсьць мэта часапісу. Вы два выконваіце ролю палкі ў калёсах, дый дапа-

магаіце вэгэтаваць, а прэтэндуіце на прэзыдэнтаў ды япіскапаў.

*Аднак ня гледзягы на цяжкое нутраное і вонкаве палажэньне, беларусы ў зьмененых новых абставінах, адразу спонтанігна прыступілі да працы і барацьбы за свае нацыянальныя правы. Калькасна невялікі ўцалеўш беларускі нацыянальна актыў, неадкладна па нямецкай акупацыі, распагаў барацьбу з савецка-расейскімі дыверсантамі на ўсходзе, і з польскімі дывэрсантамі на захадзе краю, за апанаваньне адміністрацыі на мяйсцох. Нямецкія ўлады вырашалі нацыянальныя справы Беларусі пасвойму. На пагатку яны ізалявалі і вынішгалі жыдоўскае насельніцтва на Беларусі. Пасьля яны гас ад гасу вынішгалі то польскі, то беларускі нацыянальны актыў у розных мясцовасьцях, аслабляюгы такім гынам небясьпегную для іх дзейнасьць беларусаў і палякаў.*

Тут вы правы, што Беларускі Актыў быў колькасна невялікі, пагэтаму ён ня мог стаць лідарам нацыі дый даць правільны супраціў дзьвюм варожым сілам Бэрлін-Масква.

*Увосені V941 г. на Беларусь прыбыла нямецкая цывільная адміністрацыя, як пастаянны колёнізатарскі апарат. Яна ахапіла ўсё кіраўніцтва краю згары аж да валасьцей. Мяйсцовае насельніцтва прыцягвалася толькі да дапаможных функцыяў. Усё жыцьцё краю нацыянальная і палітыгная дзейнасьць беларусоў не дапушгалася. было падпарадкаванае нямецкім патрэбам. Ніякая самастойная Арганізаваны беларусамі Беларускі Чырвоны Крыж быў ператвораны немцамі на Беларускую Народную Самапомаг, якая была паддадзеная дакладнаму нямецкаму кантролю. Дапушганая да існаваньня Беларуская Праваслаўная Аўтакефальная Царква не атрымала звароту ўсяго царкоўнага майна і ня мела ўрадавае дапамоогі. Царква магла толькі правіць багаслужэньні і палагоджваць трэбы. Ёй было забаронена праводзіць асьветную, узгадаваўгую і грамадзкую дзейнасьць.*

*Усе прыродныя багацьці краю, як і зямля, уважаліся за нямецкую собскасьць і мяйсцовае жыхарства было дапушганае толькі да гасовага карыстаньня імі.*

Пляны Гітлера былі вядомыя перад 1941 годам. Навялікую жаль, 99,9% Беларусаў ня мелі зялёнага паняцьця аб Гітлероўскіх Плянах. Што зробіш: Беларускі Актыў быў колькасна невялікі, Беларускі Вызвольны Рух далёка неадыйшоў ад яго пачатковай стадыі. Хацелася-б запытаць самаго сябе дый іншых, колькі мы знаем сёнь-

ня пра тыя пляны, якія нам падрыхтоўвалі ды падрыхтоўваюць нашыя суседзі, дый свае фюрэры?

*З нацыянальнага боку немцы уважалі Беларусь за край заселены Беларускім народам. Таму яны дапусьцілі тут беларускую мову ў мяйсцовую адміністрацыю, школы, сды, царкву і культурнае жыцьцё, заместа быўшых раней расейскай мовы на падсавецкай, і польскай мовы на пад польскай Беларусі. Беларусы паклікаліся да арганізаваньня і кіраваньня толькі нізавой гасткі жыцьця. Аднак, і такія абставіны давалі маггымасьць для беларускага нацыянальнага ўзрастаньня.*

Я не знаю чаму, але тут вы хочыце.пусьціць туман у вочы. Беларуская мова была дазволеная ў адміністрацыі, школе, судах толкі ў Беларускім Камісарыяце, які па тэрыторыі раўняўся адной дзесятай сапраўднае тэрыторыі Беларусі.

*Перамогі савецкіх арміяў змусілі немцаў да адступленьня на захад. Пры канцы 1943 г. фронт быў ужо на ўсходняй гастцы Беларусі і было ясным, што хутка ўвесь край будзе заняты савецкімі войскамі. У гэтым гасе і зьявіліся абставіны маггымыя для стварэньня Беларускай Цэнтральнай Рады і склікаdebuts Другога Усебеларускага Кангрэсу. Дапушгаюгы Беларускую Цэнтральную Раду, з некатоорым абсягам адміністрацыйных фнкцыяў і з правам стварэньня Беларускае Краёвае Абароны, у апошнія месяцы сваей акупацыі, немцы хацелі ня толькі прыцягнуць да сябе сымпатыі беларускага народу, сколькі — стварыць карысныя сабе нутраныя цяжкасьці для надыходзягай новай акупацыі Савецкай Расеі праз знагнае ўзмацненьне беларускага нацыянальнага арганізаванага дзейніка. Беларусы з энтузыязмам прыступілі да нацыянальна-дзяржаўнай дзейнасьці ў такі крытыгны гас, каб стварыць самастойную палітыгную і вайсковую базу, спадзяюгыся на падтрымку самавызнагэньня народаў перамагаюгымі краінам заходняга сьвету. З кароткі гас дзейнасьці Беларускай Цэнтральнай Рады нацыянальная сьведамасьць. арганізаванасьць і актыўнасьць беларускага народу ўзрасьлі вельмі знагна. Для таго, каб абаперці ўвесь нацыянальна-вызвольны рух на шырокіх народных асновах Беларуская Цэнтральная Рада і склікала Другі Усебеларускі Кангрэс.*

У 1943 Савецкі-Нямецкі Фронт быў не на ўсходняй частцы Беларусі, як вы пішыце. Больш, як палавіна Беларусі была ў маскоўскіх палачоў. Чаму Сп. Касяк вам хацелася сказаць? „зьявіліся абставіны для стварэньня БЦР дый скліканьня „Другога Усебеларус-

кага Кангрэсу“. Ужо той факт, што больш тэрыторыі Нашага Краю была акупавана савецкай арміяй, не давала магчымасьці нямецкім каменднтурам паслаць людзей на гэты „Усебеларускі Кангрэс“, скліканы немцамі. Для гэтага вы ўжываіце вось такі сказ „фронт быў на ўсходняй частцы Беларусі“, замест цэнтральнай частцы Беларусі. Вы прызналіся, што адміністрацыйная функцыя БЦР была агранічана, гэта значыць трэба было выконваць загады немцаў, але было дадзена права БЦР стварыць БКА. Вось тут Сп. Касяк дый паны Кангрэсовага Камітэту уся праўда. Для таго каб выкарыстаць Беларусаў супроць Масквы, немцы не маглі гэты раз рабіць самі. Пад час акупацыі, нашага краю, яны паказалі свае зьвярыныя пляны да нас. Канец і сэнс вайны стаў зразумелым, нават тым, хто не разумеў напачатку. Калі першы раз ім удалося выкарыстаць нашае жаданьне бачыць асвабадзіцеляў то пры адступленьні яны падыйгралі на нашым патрыятызме дый факту, што Беларускі Актыў у Вайсрутэнішэ Камісарыяту не маюць выбару, а толькі будуць супрацоўнічаць із обэрмэншамі.

Як із вашага звароту бачна, найперш была створана БЦР, а потым быў скліканы „Другі Усебеларускі Канргэс“. Калі справы робяцца правільна, то спачатку трэба было склікаць Усебеларускі Кангрэс, дый самым Беларусам, а не нямецкім камендантурам, дый тады, як фронт быў пад Масквою. Гэты Кангрэс стварыўбы БЦР ці штось іншае. Тады гэты Кангрэс быў-бы Усебеларускі а вам ня было-б патрэы муціць ваду.

Гэта праўда, што Беларусы Вайсрутэнішэ Камісарыяту а ня цэлай Беларусі, як вы пішыце, прыступілі актыўна будаваць палітычную базу. Немцы ня былі такімі дурнымі, як думалі Беларусы дый Власовцы. Перад тым, як стварыць нейкі рух, немцы із нямецкай дакладнасьцю прадбачвалі, якую яны будуць мець карысьць ад нас.

*Дня 27 чэрвеня 1944 г. у гарадзкім тэатры Менска сабраліся 1.039 дэлегатаў ад усяго краю, з удзелам 16 прадстаўнікоў ад беларускіх згуртаваньняў за межамі Беларусі. Кангрэс заслухаў справаздагу Р. Астроўскага, Прэзыдэнта БЦР, і праграмовыя прамовы: М. Шкелёнка, Віцэ-Прэзыдэнта БЦР, „Аб прызнаньні за няважныя пастановы ўраду СССР і былое Польшчы, якія датычаць Беларусі, яе тэрыторыі і народу“, і А Калубовіча „Аб канчальным разрыве Беларусі з Масквою і аб уневажненьні маскоўскага голасу ў беларускіх справах“. На Кангрэсе выступалі шматлікія дэлегаты з прамовамі, дыскусыямі і прапановамі. Усе дэлегаты былі аднадумнымі*

*ў вырашаньні асноўных нацыянальна-дзяржаўных спраў. Прэзыдэнтам БЦР аднагалосна быў выбраны Р. Астроўскі. Аднагалосна былі прынятыя праграмовыя рэзалюцыі Кангрэсу.*

22 чэрвеня 1944 года „Кангрэс“ ня выбраў а падцьвердзіў аднагалосна кандыдатуру прафэсара Астроўскага, назначанага немцамі. Якія-ж гэта былі выбары, калі камісар Беларусі немец меў поўнае права звольніць альбо назначыць прэзыдэнта БЦР, а не „Кангрэс“. Нашто вы спадары муціце.

Калі 25 год таму назад вы змушаны былі так гаварыць, то хто вас змушаіць сёньня? Сьляпая амбіцыя? Калі немцы арганізоўвалі БЦР, большасьць Беларусаў не зналі аб такой падзеі. Запытайце ў многіх на эміграцыі. Савецка-нямецкі фронт, страшнай навальніцай, танцаваў па грудзях і жываце скрываўленай Беларусі. Наш народ стагнаў дый рваў валасы на сабе' дый пытаўся: за, што ты Божа нас пакараў?

*Кангрэс пацьвердзіў Трэцюю Устаўную Грамату Рады Беларускай Народнай Рэспублікі аб стварэньні Беларускай Народнай Рэспублікі з дня 25 сакавіка 1918 г. Гэтай пастановай Кангрэс дадаў вагі дзяржаватворгаму акту, прынятаму лігбова незялікай Радай БНР, а аднагасна зактуалізаваў справу беларускай дзяржаўнасьці ў бягугым гасе.*

*Кангрэс рашуга адкінуў БССР як гужацкую расейскую форму дзяржаўнасьці, гвалтам накіненую беларускаму народу маскоўскамі заохпнікамі.*

*Кангрэс пастанавіў паведаміць урады і народы ўсіх краінаў сьвету, што ўрад СССР, як і твораныя ім урады БССР, не маюць праўнай сілы выступаць у справах Беларусі, бо яны не прызнаюцца беларускім народам.*

Дарагі Іван Іванавіч дый падпісаўшыяся, факт ёсьць фактам, што БЦР пачало дый выканала такую самую ролю для немцаў, як БССР для расейцаў.

*Кангрэс пастанавіў уневажніць усе ўмовы і пастановы ўрадаў СССР і Польшгы адносна тэрыторыі Беларусі і беларускага народу. як і маггымыя спробы падзелу Беларусі ўрадамі іншых дзяржаў. За адзінае праўнае прадстаўніцтва беларускага народу і краю на той гас Кангрэс прызнаў Беларускую Цэнтралную Раду з Прэзыдэнтам Радаславам Астроўскім на гале.*

А чаму не было ўневажніць усе ўмовы немцаў. Напрыклад:

немцы, падчас Першае Сьветавое Вайны прызналі Ўкраіну, як незалежную дзяржаву, а частку нашага Палесься разглядалі, як частка Ўкраіны. Падчас Другое Сьветавое Вайны Палесьсе ўзноў было далучана да Ўкраіны. Беласток дый Гродна надалей былі часткай Усходняе Прусіі, тады калі вы былі прэзыдэнтамі.

Мае дарагія БЦРаўцы, вы рабілі тое, што рабілі дый робяць БССРаўцы. Паўночная, Цэнтральная, Усходня-Паўдзённая часткі Беларусі па сёньня належаць да РСФСР, а дзесяці міліёнам Беларусаў пішуць у паспартах русскій. Тыя, што выконваюць ролю маскоўскіх халуёў у Менску маўчаць ціханька, як тыя мышы пад венікам альбо кажуць, якая розьніца абы сацыялізм. Для расейцаў ёсьць розьніца, яны нават частку Усходняй Прусіі далучылі да РСФСР.

*У хуткім гасе пасьля Кангрэсу арміі Савецкай Расеі ізноў акупавалі ўсю Беларусь. БЦР і вялікая гастка народу пакінулі сваю бацькаўшгыну і выехалі ў краіны заходняй Эўропы. БЦР арганізавала вайсковыя злугэньні ў Нямеггыне і працягівала змаганьне супроць Савецкай Расеі аж да канца Другой Сусьветнай Вайны...*

Справакаваўшы частку Беларусаў да БКА, БЦР із часткай Беларусаў уцяклі да Нямеччыны дый там пачалі правакаваць на нешта лепшае. Немцы дазволілі пару дывізый. На Бацькаўшчыне, яны баяліся нам дазволіць сваю армію. Обэрмэншы выкарыстоўвалі Беларусаў, як дапамаговая сіла для нямецкіх жандармаў із тытулам паліцай. Ці знойдзіцца сіла, дый столькі чарніла, каб апісаць усе сьлёзы і гора, тых людзей, якім БЦР дапамагло надзець зялёную сьвітку обэрмэншаў.

*Краіны-пераможцы ў гэтай вайне, ня выказалі зразуменьня для нацыянальна-вызвольных імкненьняў народаў паняволеных Савецкай Расеяй. Яны патрактавалі гэтае пытаньне за нутраную справу Расеі. А ўрад Савецкай Расеі ўзнавіў сваю БССР з усімі папярэднімі дзікімі мэтадамі тэррорыстыгна-колёніяльнага панаваньня на Беларусі, якія трываюць па сягоньня.*

Ня толькі Беларусы, але іншыя антыкамуністы спадзяваліся на зразуменьне ад Захаду. Можна сабе прадставіць: спаткаўшыся на рацэ Эльба амэрыканцы і бальшавікі пачалі вайну паміж сабою. Захад меў усе шансы выйграць. Заходняя Беларусь была-б аддадзена палякам. Польска Краёва Армія ўзяла-б цывільную адміністрацыю. Андэрс прыбыў-бы із сваім войскам. Цяпер ён знайшоў-бы, што яго многія ваякі былі на службе нямецкай жандармэрыі. Бела-

руская цывілньная адміністрацыя была антыпольскай. Які страшны канец быў-бы для многіх Беларусаў. Далей на ўсход захад глядзеў-бы на нашыя землі, як адна Вялікая Раша, яны інакш не разумелі дый не разумеюць сёньня. Факты на якія мы напаткаліся дый перажылі на эміграцыі паказваюць нерацыянальнасьць думаньня Беларускага Актыву дый усей Беларускай Нацыі да Захаду. Мы йшчэ па сёньня не апомніліся, ад усяго таго, што здарылася падчас Другой Сьветавой Вайны, дый, як тое віннае дзіця, якое нарабіла ў пялёнку, хаваем дый баімся адкрыта падняць здаровую дыскусію паміж сабою. Калі нехта адважыўся то гэты „беларускі актыў" сабіраецца дый радзяцца паміж сабою, як-бы пакончыць із гэтым адважным.

Інакшбы справа была на Ўкраіне, якая мела сваю армію — УПА. Калі-б сапраўды на іх тэрыторыю прыйшоў Захад, то каля гэтай арміі знайшлі-б сабе мейсца ўкраінскія паліцаі, бургомістры дый іншыя. Андэрсу не так-бы было лёгка, а то і наагул ці было-б магчыма, расправіцца із Украінцамі антыпольскага кірунку.

*Дзякуючы такім спрыяльным абставінам Савецкая Расея сягоньня зьяўляецца тэрыторыльна найвялікшай імпэрыяй сьвету. Сваей палітыкай заваяваньняў іншых народаў, асыміляцыяй іх, пасуненай аж да гэносыдызму, і заўдзякі дзяржаўнаму камунізму, яна стварыла вялізную мілітарную сілу. Зараз яна працягівае далей сваю традыцыйную палітыку экспансыі рознымі спосабамі ў глёбальным абсягу, пагражаючы незалежнасьці рэшты вольных краінаў.*

*Значэньне Другога Усебеларускага Кангрэсу, як і ўсей дзейнасьці і барацьбы беларускага народу падчас 2-й Сусьветнай Вайны за сваю нацыянальную самастойнасьць і дзяржаўную самастойнасьць аграмаднае. На дадзеным этапе свайго існаваньня беларускі народ паказаў, што ён ператрываў вялікія вынішчэньні, уціск і асыміляцыю на працягу апошніх 24 год з боку Савецкай Расеі і Польшчы. Сваей актыўнай барацьбоў беларускі народ зарэманстраваў высокі патрыятызм, ахвярнасьць і гатоўнасьць стасаваць самыя астатоўныя мілітарныя мэтады барацьбы для асягненьня свайго ідэалу. Адначасна з гэым беларускі народ выявіў выдатны ўзровень нацыянальнай і грамадзкай сьпеласьці. Ён хутка загаіў раны нанесеных стратаў і паказаў сябе здольным да спраўнай арганізаванасьці, здысцыплінаванасьці і нацыянальнай салідарнасьці, што характэрызуе нацыянальна сьпелыя народы. Другі Усебеларускі Кангрэс зьяўляецца ўкаранаваньнем усі хгэтых якасьцяў і асягненьняў часу.*

*Як сама ідэя скліканьня Кангрэсу — агульна-нацыянальнай рэпрэзэнтацыі, так ягоны прабег і прынятыя пастановы зьяўляюцца падзеямі і дакумантамі першараднае гістарычнае вагі. Яны заўсёды будуць сьведчыць з найлепшага боку аб беларускім вольналюбным народзе.*

Астатні кусок звароту прапаную на разгляд чытача. Паспрабуйце быць самастойнымі, аб'ектыўнымі, тады і вы станіце думаць так, як і я.

*Хаця мінулае ад Другога Усебеларускага Кангрэсу гверцьвечча ня было спрыяльным для рэалізацыі ягоных пастаноў, аднак, мы перакананыя, што для будучага нацыянальна-палітычнага ўзгадаваньня, барацьбы і дзяржаўнага будаўніцтва беларускага народу гэты Кангрэс, побач Першага Усебеларускага Кангрэсу 1917 г., будзе мець найвыдатнейшую ролю з навейшай беларускай палітычнай гісторыі.*

*Мы заклікаем увесь беларускі народ да ўрачыстага ўшанаваньня юбілею 25-ці год Другога Усебеларускага Кангрэсу магчымымі спосабамі.*

*Радаслаў Астроўскі*
*Прэзыдэнт Беларускай Цэнтральнай Рады*
*Пачэсны Сябра Прэзыдыюму Кангрэсу*

*Яўхім Кіпель*
*Прэзыдэнт Кангрэсу*

*Леанід Галяк*
*Сакратар Кангрэсу*

*Іван Касяк*
*Віцэ-Прэзыдэнт Кангрэсу*

*Сябры Прэзыдыюму Другога Усебеларускага Кангрэсу*

*Нью-Йорк, 15 траўня 1969 г.*

*(Уласнаручныя подпісы зложаныя на асобных экзэмплярах)*

ВЫВАД

1) „ДРУГІ ЎСЕБЕЛАРУСКІ КАНГРЭС" НЕМЦЫ СКЛІКАЛІ, ЯК ЭРЗАЦ ПЕРШАМУ УСЕБЕЛАРУСКАМУ КАНГРЭСУ, КАБ ВЫКАРЫСТАЦЬ БЕЛАРУСАЎ ПЕРАД НАСТУПАЮЧАЙ СА-

ВЕЦКАЙ АРМІЯЙ.

2) БЦР, КОРАТКА, ВЫКАНАЛА ТАКУЮ РОЛЮ ДЛЯ НЕМЦАЎ, ЯК БССР ДЛЯ РАСЕЙЦАЎ. У ГІСТОРЫІ АКУПАНТЫ ЗАЎСЁДЫ БУДУЦЬ НАДУЖЫВАЦЬ НАШАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА: ДЛЯ ПАЛІТЫКІ, АСАБЛІВА ПРЫ НОВАЙ АКУПАЦЫІ.

3) ДРУГАЯ СЬВЕТАВАЯ ВАЙНА, МАГЧЫМА, — ПАСЕІЛА НЕНАВІСЬЦЬ СЯРОД САМЫХ БЕЛАРУСАЎ БОЛЬШУЮ, ЧЫМ СУПРОЦЬ АКУПАНТАЎ.

4) СЁНЬНЯ, НА БЕЛАРУСІ НЕМА АНІЯКАЙ СЫМПАТЫІ ДА ТЫХ, ХТО СУПРАЦОЎНІЧАЎ ІЗ АКУПАНТАМІ.

5) БЦРаўцы, ПІШУЧЫ СВАЕ ЗАКЛІКІ ГУЛЯЮЦЬ БОЛЬШ У ПАЛІТЫКУ (ХІБА ХТО ЁСЬЦЬ ХВОРЫ НА ГАЛАВУ, А ГЭТА МАГЧЫМА), ЧЫМ ВЕРАЦЬ У РЭАЛЬНАСЬЦЬ ДЫЙ СЭНС СВАІХ ЗАКЛІКАЎ.

6) БССРаўскія НА БЕЛАРУСІ, ДЫЙ ЭМІГРАНЦКІЯ ПАЛІТЫКІ Ў СВАІХ АСЯРОДКАХ ЗАСТРАШАЮЦЬ; ПАДМАЛЁЎВАЮЦЬ, ШТО УЖО ДАЎНО ЗГУБІЛА СВОЙ ЦЬВЕТ; ПАГРАЖАЮЦЬ ТЫМ, ХТО ПАЧЫНАІЦЬ ДУМАЦЬ САМАСТОЙНА. У СТРАХА ЗАЎСЁДЫ ВЯЛІКІЯ ВОЧЫ.

7) ХОЦЬ НЕАХВОТНА, АЛЕ ТРЭБА СЬЦЬВЕРДЗІЦЬ: ДЛЯ ТАГО, КАБ НАШ НАРОД ПАЧАЎ ДУМАЦЬ ЦЬВЯРОЗА, ТРЭБА КАБ У БССР ДЫЙ НА ЭМІГРАЦЫІ ВЫМЕРЛІ ПАЛІТЫКАНЫ ДВУХ ПАКАЛЕНЬНЯЎ, НАЙМЕНЕЙ. ХТО ЗНАІЦЬ, ХІБА ЙШЧЭ ЗНОЙДУЦЦА АКУПАНТЫ ДЫЙ ЗАВЯЖУЦЬ БАРАЦЬБУ ПАМІЖ БЕЛАРУСАМІ, ЗА ЧУЖЫЯ ІНТАРЭСЫ.

8) МОЛАДЗЬ ДЫЙ МАЛАДЫЯ ДУХАМ, ТОЛЬКІ НАДЗЕЯ. НА ЭМІГРАЦЫІ ГЭТАЯ НАДЗЕЯ, АМАЛЬ, ЁСЬЦЬ СТРАЧАНАЙ, НА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ, ДУХ ПАТРЫЯТЫЗМА ТЛЕІЦЬ, А НЕ ГАРЫЦЬ.

Радактар: Dr. P. Markouski Editor

Адрыс: 204 S. Highway, 18
East Brunswick, N.J. 08816
USA

Printed by The Whiteruthenian Press * 452 South Avenue, Syracuse, N.Y., 13204